Цана асобнага нумару 20 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 38. Вільня, Чацьвер 18 Лістападу 1926 г. Год II

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ

Адрэс Рэдакцыі й Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ПОЛАЦКАЯ 4. — (WILNO, POŁOCKA 4). Рэдакцыя адчынена штодня ад 12 да 7 гадзіны апрача сьвята. Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Падпіска: на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцау 4 зал., на год — 8 зал.

Цана абвестак: на 1-ай старонцы 30 гр., 2 і 3-яй — 25 гр. і на 4-ай — 20 гр. за радок дробнага друку уваднэй палосцы. Жадаючыя іншых абвестак павінны зьвярнуцца да Адміністрацыі.

## Прэсавыя рэпрэсыі.

Што дзень то навіны! Кажуць, што знакам добрага тону й інтэлігэнцыі ёсьць якраз тое, каб ня дзівіцца зь ніякіх, на'т сэнсацыйных навінаў. Апошняй навіной у польскім законадаўстве — ёсьць распараджэньне польскага ўраду, падпісанае прэзыдэнтам, аб прэсе. Ня дзівімся з гэтага закону, бо спадзяваліся й спадзяёмся ў Польшчы ўсялякіх магчымасьцяў. Але нягледзячы на гэта мусім выявіць сваё становішча.

Што такое новы закон аб прэсе? Гэты закон дае права адміністрацыйнай уладзе пасвайму пагляду накладаць грашавыя кары на газэты й часопісі да сумы 10.000 зал. або з заменай на 3 месяцы адседкі вінаватага рэдактара, або аўтара. Гэтая кара можа быць наложана за зьмяшчэньне ў часопісі вестkаў нязгодных з праўдай, або шкодных гаспадарству або якія ганьбяць вышшыя ўлады. Прычыны для караў як бачым, паданы ў агульнай форме. Агульная форма якраз вельмі на руку для тых рэфэрэнтаў урадніkаў, якія сочаць за прэсай і будуць накладаць кары. Па свайму пагляду, бяз суду, будуць яны пастанаўляць ці паданая вестка можа пашкодзіць гаспадарству, ці не, і ўзалежнасьці ад свайго пагляду будуць караць рэдактароў. Выбачайце, але-ж пагляд такога рэфэрэнта якраз можа апірацца на сваіх вузенькіх пераконаньнях і паняцьцях аб дзяржаўным жыцьці. Рэдактар, як выраблены грамадзянін, якраз можа ляпей разьбірацца ў тым ці зьмешчаная ім у газэце вестка для будучага дабра гаспадарства ёсьць карыснай, ці шкоднай. Калі ходзе аб факты нязгодныя з праўдай, то хто-ж будзе судздзёй ці запраўды гэныя факты нязгодныя з праўдай? Той самы рэфэрэнт, які будзе караць, мае права пастанаўляць аб гэтым. Дык дзеж праўда, дзе справядлівасьць? За праўдай і справядлівасьцяй пакрыўджаны трымесячнай адседкай рэдактар можа падаваць у суд. Ці-ж ня зьдзек гэта над свабодай друку загварантаванай констытуцыяй? Права прэсы крытыкаваць урад ёсьць здабычай дэмакратаў, якія маюць на мэце крытыкаю ўлады даходзіць да яе дасканаленьня; бо да ўлады могуць часам дарвацца такія людзі, якія якраз працуюць на шкоду гаспадарства. Такія выпадкі ўжо былі ў гісторыі. Ды вельмі шмат важных аргумэнтаў можна прывесьці на карысьць вольнасьці прэсы, вольнасьці грамадзянскай апініі, якая выказуецца прэсай. А цяпер зададзём сабе іншае пытаньне. Проці каго сьціравана, галоўным спосабам распараджэньне польскага ўраду ў справе скасаваньня вольнасьці прэсы? Каб адказаць на гэтае пытаньне, трэба заглянуць у хроніку аб судовых справах. Пабачым там, што найболей пад судом, а адзін і ў вастрозе знаходзіцца рэдактараў беларускіх газэтаў. Ёсьць там рэдактары і „Сялянскай Нівы“ і „Крыніцы“ і „Бел. Справы“ і яе продкаў. За апошнія гады панаваньня Польшчы найболей канфіскаваліся беларускія газэты. Гэтыя факты зьяўляюцца довадам таго, што прасовыя рэпрэсыі наўперад пойдуць проці беларускіх часопісяў, проці часопісяў нацыянальных меншасьцяў. Дагэтуль рэпрэсыі беларускіх газэтаў праводзіліся паводле даўнейшых царскіх законаў. Калі камісару ўраду не падабаліся якія нумары беларускіх газэтаў, ён канфіскаваў іх і рэдактара аддаваў пад суд. Цяпер, паводле новага закону камісар ураду будзе канфіскаваць газэты і сам судзіць рэдактараў, накладаць адразу кару ў суме да 10.000 з. або адразу садзіць рэдактара ў вастрог. Да гэткага закону не дайшоў навет царскі урад! Аўстрыяцкі Францішак, нямецкі Вільгэльм і расейскі Мікалай II не адважыліся выдаць такі закон, затое польскі прэзыдэнт, нягледзячы на сваю констытуцыю гэта зрабіў вельмі адважна. Паглядзім, што з гэтага выйдзе!

Мусім тут адзначыць, што закон проці прэсы непадабаўся на'т некаторым польскім газэтам, што бароняць цяперашні урад. На'т, „Kurjer Poranny“ выказуецца проці гэтага закону. Цікава як цяпер выглядаюць польскія дэмакраты. якія падтрымлююць цяперашні ўрад? Як выглядаюць пэпээсы, якіх сябра міністрам у цяперашнім урадзе, як выглядае Вызваленьне, клюб Працы і іншыя?

Нашае адносіны да польскага ўраду ўжо даўно вядомыя. Чым далей у лес, тым болей дроў. Чым болей жывём пад Польшчай, тым болей пераходзім мы, Беларусы, на ўсё болей цярністы шлях. Але будзем вытрывалымі, пераможам гэтае гора!

## Гурткі Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

30. У вёсцы Слабада, Браслаўскага пав. зарганізаваны Слабодзкі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры.

31. У в. Жарсьцьвянка, Дзісьненскага пав. зарганізаваны Жарсьцьвянскі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры.

32. У м. Суботнікі, Лідзкага пав. зарганізаваны Суботніцкі Гурток Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры.

33. У в. Адамчукі, Віленска-Троцкага пав. зарганізаваны Адамчуцкі Гурток Беларус. Інст. Гасп. й Культ.

34. У м. Новай-Вялейцы зарганізаваны Нова-Вялейскі Гурток Бел. Інст. Гасп. й Культ.

35. У в. Нараўка, Бельскага пав. зарганізаваны Нараўскі Гурток Бел. Інст. Г. й Культ.

36. У м. Бярэза-Картуская, Пружанскага пав. зарганізаваны Картуз-Бярэскі Гурток Бел. Інст. Гасп. й Культуры.

37. У м. Радашкавічы, Вялейскага пав. зарганізаваны Радашкаўскі Гурток Бел. Інст. Гасп. й Культуры.

38. У в. Шутавічы, Ашмянскага пав. зарганізаваны Шутаўскі Гурток Бел. Інст. Гасп. й Культуры.

## Падавайце дэкларацыі на беларускія ўрадовыя школы!

Дэкларацыі і ўсе інструкцыі на жаданьне высылае:

a) Беларускі Інститут Гаспадаркі й Культуры (Wilno, Zawalna 7 m. 8) і

b) Т-ва Беларускай Школы (Wilno, Wileńska 12 m. 6).

## БЕЛАРУСКІ ФІЛЁЛЁГІЧНЫ ЗЬЕЗД У МЕНСКУ.

У нядзелю 14 лістападу пачаўся ў Менску Беларускі Філёлёгічны Зьезд і мае скончыцца 20-га лістападу. Горача вітаем Зьезд і жадаем яму ўдачнае працы. Зьезд гэты даўно чаканы й гатаваны. Склікаваны ён дзеля рэформы беларускай абэцэды, правапісу й граматыкі (з выняткам сынтаксысу). Гэтакім парадкам гэты навуковы зьезд, ці, як ён афіцыяльна названы, Акадэмічная Конфэрэнцыя мае практычныя заданьні, тое ці накшае разьвязаньне каторых будзе мець вялізарнае значэньне дзеля далейшага развою беларускае літаратурнае мовы. Практычным характарам зьезду выясьняецца й тое, што на яго запрошаны ня толькі адумыслоўцы-філёлёгі, але й значная лічба іншых рабачаёў на беларускай культурнай ніве, каторыя пашыраюць пяром беларускую культуру і разьвіваюць літаратурнаю мову беларускаю. Гэткім парадкам пры ўдачным разьвязаньню шмат якіх пытаньняў адразу было-б магчыма прынятыя пастановы шырака рэалізаваць. А трэба яшчэ аддаць справядлівасьць Інстытуту Беларускай Культуры ў Менску, што ў гэтай чыста-культурнай і ўсебеларускай справе не рабіў партыйнага выбару паміж Беларусамі, а запрасіў ён бяз розьніцы палітычных кірункаў і пагляд аў. Вельмі шмат так-жа запрошана філёлёгаў чужых народаў.

На жаль польская ўлада начай аднеслася да зьезду. Чыста навуковаю справу яна, відавочна, прадставіла сабе як палітычнаю, вынікам чаго было тое, што з усіх, каторыя зьбіраліся на зьезд, пашпарт дастаў толькі адзін, а гэты „шчасьлівы“, не захацеў *адзіны* карыстаціся тым правам, якім на ўсім сьвеце карыстаюцца *ўсе грамадзяне* і ад падарожжа ўзьдзержыўся. Ня выданьне польскаю ўладаю пашпартаў на зьезд немагчыма ніяк апраўдаць, бо ясна кожнаму, як Божы дзень, што й найпалітычнейшы Беларус, паехаўшы ў Менск, ня могбы пашкодзіць польскаму гаспадарству.

Гэткім парадкам Заходняя Беларусь на так важным зьезьдзе зусім не прадстаўлена. Шкоднасьць гэтага нам асабліва стане яснай, калі зьвернем увагу на тыя ў значнай меры дзіўныя проекты рэформы правапісу, якія зрабілі некаторыя ініцыятары зьезду. Дзеля гэтага трэба прывітаць тэлеграму Беларускага Навуковага Т-ва ў Вільні, у якой яно заяўляе, што будзе лічыць рэзалюцыі „факультатыўнымі да ўзгадненьня іх з прадстаўніцтвам Заходняе Беларусі“ і „просіць Конфэрэнцыю ўзьдзержыцца ад рэалізацыі прынятых пастановаў да такога ўзгадненьня“.

Да гэтага дадам яшчэ, што зьмена ці дапаўненьне беларускае граматыкі ці правапісу не павінна стацца дарогаю прытарнаваньня іх да прыдуманых прынцыпаў, каторыя яшчэ самі патрабуюць умотываваньня, але дарогаю ўсебаковага навуковага разгляду кожнае асаблівасьці, выходзячы із самае беларускае мовы як такое.

*Філёлёг.*

## Із Заходняе Беларусі.

### Зьмена назову пошты.

Назоў пошты „Галынка“ ў Слонімскім павеце зьменены на назоў „Галынка каля Слоніма“.

### Ваўкі ў Горадзэньшчыне.

Наказуюць з Гораденшчыны, што тамака дадзяваюць людзём ваўкі. Здараецца, што ваўкі нападаюць на жывёлу ў хлявах. Паляўнічыя думаюць, што сёлета ваўкоў болей, як летась гэтай парой.

### Мусульманскія волась[ц]і.

Мусульманскі муфці д-р Шынкевіч працуе над арганізацыяй і ўпарадчаньнем мусульманскіх рэлігійных валасьцяў у Зах. Беларусі. Будзе апрацаваны статут мусульманскіх валасьцяў, каторы мае быць зацьверджаны міністрам веры, як норма адносінаў паміж гэтымі валасьцьмі й гаспадарствам.

## Лісты.

Дарагонькая Рэдакцыя!

Ты ўсім усё кажыш, скажы-ж і нашаму куточку, што трэба рабіць!

Па іншых кутках лепшыя долі бываюць, там ёсьць сваё арганізацыі, туды прыходзяць нейкія людзі і дастаюць падпіскі для беларусаў, а к нам ніводная птушка ня заляціць. Ёсьць у нас побач дзьве вёскі Кастыкі й Чапельшчына Касьцянеўскай валасьці, людзі зь беларускай думай, але як авечкі без пастыра, нічога ня знаюць, што рабіць. Тутачка (у Кастыках) ёсьць і школа, але польская і нашых дзетак вучаць чытаць і пець папольску, а пра сваё няма чаго і думаць. Гаманяць грамадзяне між сабой, каб і да іх хто прыехаў, дык усе-бы з рукамі й нагамі адазваліся-бы за Беларусаў, а зь якога боку ўзяцца ня ведаюць і праўду сказаць, пабойваюцца польскага права. Рускага сьвету тутачкі крыху ўкусілі, а свайго не смакавалі.

Пішу як магу да рэдакцыі, спадзяючыся на яе падмогу, што яна толькі можа скіраваць жаданьні куды трэба.

*Квактун.*

### Багатыру і чорт дзеці калыша.

Чаму-ж ня пець, чаму-ж ня гудзець, калі да багатыроў лепшая доля на сьвеце йдзець. На багатыра лепшае вока маюць усюды. Так і ў нашай вёсцы на шчот усякіх павіннасьцяў багатым лепей як бедным-малазямельным.

Правяць у нас дарогу на працягу вёсак Ерхі—Сосанка, людзёў выганяюць ад хаты гэтулькі як хто плаціў падаткі. Здаецца зроблена як ня трэба справядлівей: хто мае болі зямлі, той болі плаціць падаткаў і болі павінен высылаць людзей на дарогу, але тут скрыўдзілі, напрыклад: ў вёсцы Чапэльшчына, Касьцянеўскай воласьці, Вялейскага павету, гр. Чарняўскаму, які жыве на валоцы трэба на дарогу 4 чалавекі й 4 падводы, на другой-жа валоцы Бяганскаму, які жыве на 1/6 часьці валокі, трэба 6 чалавекаў і 6 падводаў.

Валокі-ж роўныя, а на работу трэба ня роўна; гэтак-жа і іншых ня роўна, на адной палавіне валокі трэба 5, а на другой 6.

Няма ведама хто гэтак разьдзяліў працу, ці воласьць, ці кастыцкай грамады староста, бо ад яго наш вясковы дастаў запіску каму колькі трэба рабіць і ён піша выпаўненьня павіннасьці.

*Квактун.*

### Было, было дый скончылася.

Надовячы мне прыйшлося бачыцца й гаварыць зь сялянамі вёскі Бурачкі, Грыцэвіцкай воласьці. Пасьля прывітаньня й што чуваць, нашая гутарка перайшла на найбалючэйшае месца Бурачкоўцаў, а паіменна: іхняга пераходу на хутары. Зямлі ў нас мала, дый тая параськідана ў розных мясцох — пачалі свой расказ Бурачкоўцы,—болей палавіны зямлі ляжыць далёка ад вёскі. Так, што кожны гаспадар мае яе ў 24 кусках. Ёсьць палоскі, што і з баронаю нельга завярнуцца, але затое доўгія на цэлаю вярсту. Скаціны папасьвіць, калі-б хто й хацеў, то немагчыма, бо покуль загоніш і прыгоніш, пройдзе шмат часу, а скаціна будзе галадней[ш]аю, чым із хлева выйшла. Нарэшце нашае цярпеньне кончылося і мы ў пачатку 1923 году напісалі заяву да Земскага Камісара ў Нясьвіжы, аб сваем жаданьню йсьці на хутары й паслалі не праз войта нашае воласьці. Доўга мы чакалі адказу ад яго, прайшло болей году, покуль Земскі Камісар прыслаў нам паперку, дзе было сказана, што заяву трэба падаваць яму аб гэтым асабіста, а не праз войта воласьці і толькі тады будзе яе разглядаць. Забраліся нанова й падалі просьбу ўжо асабіста, і ізноў чакаем. Нарэсьце, прыяжджае да нас камісар, пагавары[ў] хораша, напісаў пратакол дый паехаў. Ізноў чакаем нешта месяцаў зь 9. Напасьледак дасталі 4-га чэрвеня 1925 г. з Горадні ад Акружнае Земскае Камісыі копію пастановы № 65-1925 г., аб зацьверджаньню на хутары і аб прырэзцы для малазямельных 62 гэкт. сенажацяў князя Радзівіла. Усьцешылася нашая беднота, але не надоўга. Прыехалі каморнікі (вясною сёлета), пасьля абмеру й ацэнкі зямлі, на ад'езьдзе сказалі, што прырэзкі ёсьць ня 62 гэкт., а толькі 35 гэкт. Зьвярнуліся па выясьненьне да камісара, на што ён сказаў, што каму мала, то няхай купіць сабе ў Радзівіла колькі хоча, на'т напісаў аб гэтым пратакол і сказаў, што пашле ў Горадню, каб купіць можна было-бы праз банк. Гэта было вясною, прайшло лета, настала восень, падыходзіць і зіма, а адказу няма й каморнікаў няма. Людзі ня ведаюць, што робіць, у некаторых будынак ужо стары, гніе, а папраўляць няма сэнсу, поле пустуе, бо гной вывозяць, толькі на бульбу. Калодзежы ў многіх ужо разваліліся, трэба папраўляць, ды й паліцыя націскае на гэта, а як чыніць, правіць, калі мо' заўтра прыйдзецца ўсе кінуць і цягнуцца на новае меесца. Купіць-жа сабе зямлі, як радзіць камісар, нашыя бедныя ня могуць, бо нашая вёска зьністожана, чакаць 4 гады, то тады й хутароў будзе ня трэба. Будзем голыя, босыя, як сьвятыя! Мо' яшчэ, штоколечы разказалі-б Бурачкоўцы аб сваім жыцьці, горы, але вечар змусіў нас разыйсьціся ў розныя староны.

*Мужычок.*

## Зь Незалежнае Літвы.

9-га лістападу ў міністэрстве заграні[ч]ных справаў была мена дакумэнтамі пацьвярджаючымі трактат аб ненападаньню паміж Літвой і СРСР.

### Буджэт.

Буджэтная комісыя соймавая прыняла проект падаткаў, павялічаючы крыху суму даходаў, азначаных радаю міністраў.

Спадзяюцца 228 міл. літаў даходаў.

## НАВІНЫ.

— **Беларуская дэлегацыя ў Віленскага каталіцкага Арцыбіскупа.** У пятніцу 12 лістападу Цэнтральны Камітэт Беларускай Хрысьціянскай Дэмократыі паслаў да Віленскага каталіцкага Арцыбіскупа дэлегацыю з мэтай даручэньня мэморыялу і перагавораў аб патрэбах Беларусаў каталікоў Віленскай Архідыецэзіі.

Аб зьмесьце пададзенага мэморыялу і аб адносінах да яго з боку Арцыбіскупа падамо ў наступным нумары „Сял. Нівы“.

— Віленскі Гуртом Беларуск. Інстытуту Гаспадаркі й Культуры залажыў бібліотэку, каторая месьціцца ў памяшчэньню Гуртка, Завальная вул. 7—8.

У бібліотэцы ёсьць усе кніжкі беларускія, друкаваныя ад 1905 да апошніх часоў. Бібліотэкай кіруе скарбнік Гуртка Ядына Аляксандра.

Бібліотэка адчынена ад гадз. 9 да 7 веч.

К. Сваяк.

## ЧАРКУ ДАЙ, БРАЦЕ...

(Канчатак).

### 4. ЗІМА.

Вагон. Праз вокны, як у дзіўнай раме,
Бягуць парадкам лес і мёртва ніва.
Сонца зьнячэўку нехаця загляне,
І, азірнуўшы падарожных крыва
За іх някемства, вочы закрывае
Хмарай-хусьцінай, або ў лес зьбягае.

Сонны іх твары, гаворка лянівa,
І брагз калёсаў нейкі такі жудкі,
І погляд часта відаць палахлівы,
І сон іх нейкі так трывожна чуткі;
Прэцца машына неяк пярунліва,
То парай чмыхне—сьвісьне агідліва.

Сталі. Праз вочы змучаны з прасоньня
Бачу я нейку новую фігуру:
Прысеў на лаўцы, глянуў праз ваконьне,
Ўсіх азірае, папіросу кура...
І раптам чую сваё я іменьне,
На жах нявесны і разам зьдзіўленьне:

«Сяброчку—братка! Не пазнаў, дальбог-жа...
«Ня помніш школы у Гайскім павеце?
«Ах, як век гэты зьмены ў твары множа,
«Як сьмешна зманна на гэтым тут сьвеце...
І дай так далей прошласьць ўспамінаці,
Адно хваліці, другое ругаці.

Быў—кажа—ў войску... Весёла жылося,
Хоць было цяжка як жылі «у полі».
Цяпер нічога больш не асталося,
Як ажаніцца, бо гулянь даволі...
«Цяпер зь дзяўчынкай трэба разьвітацца,
«Ўзяць сабе жонку і за дзела брацца.

— А гдзе-ж дзяўчына? — нясьмела пытаю.
— «Э, доўга баяць. Жыў зь ёю дзяцінна...
«Еду успомнець — сама узывае...
«Ты прыйдзеш заўтра у ранней гадзіне
«Нагаварыцца, ўспомнеці старое,
«Ты нешта церпіш! Цябе супакое».

Так гаманіў мой знаёмы ваяка,
А мне здалося, што я не надарма
Зь ім у вагоне сваткаўся аднака:
Лёс нам здарае вельмі гаспадарна...
Позна вярнуўся, лёг адразу спаці
З думкаю заўтра мілу павідаці.

Сон быў спакойны, як райскай нядзелі.
Сьніў, што зь ёй разам краскі мы зрывалі,
Што каля рэчкі удваіх сядзелі,
Што кветкі разам у ваду кідалі,
Што адна толькі патанула кветка
І штось сказала накштальт: «малалетка!»

Зямелька зрана акрылася сьнежкам,
Як гаспадыня зімачку спаткала
На-поў гасьцінна, а на-поў з усьмешкам
І ўжо пакоі дзе жыць паказала.
Устаў я можа крышачку зарана,
Але што-ж зробіш з душой разыгранай!

Думаю: Люба йшчэ ўстаць не захоча,
Сон ёй трывожыць гэты раз ня буду, —
Йду да ваякі, хай мне пабалбоча
Аб нашым прошлым: адгоне прыблуду
Журбу сваёю насьмешкай з жанчыны,
Казаў-бы «грэхам яна ёсьць мужчыны».

Сяброк мой шустры увайшоў ціхенька.
Быў ужо адзеты, пробаваў гітары.
— «Эх, меў ў руках я ўжо яе дўненька,
«Але—пст! Ціха,—там у мяне «чары»!
«Крышку замнога дзяўчыначка піла,
«І чарка хітра з ног яе зваліла.

Сказаўшы гэта, прачыніў ён дзьверы...
На софе мяккай ляжала дзяўчына!
Грудзі адкрыты, твар як-бы з паперы
Бледы і гідкі (і ня без прычыны)..
Над целам сонным сяброк мой схіліўся,
Цалункам прагным ёй у грудзі ўпіўся...

Зусім ня помню,што са мной зрабілась...
Як бязпрытомны я глядзеў праз дзьверы...
Яна! Так! Люба!... Навет нрабудзілась
І вочы ейны сумныя бязь меры...
Стралою рынуў адтуле я вонкі,
За думкай страшнай пабег наўдагонкі.

Хапіў рэвольвэр і ляцеў да рэкі,
Гдзе ў сьне мы кветкі сёдня пакідалі.
Рэчка замерзла. А маей уцекі
Тутка, здаецца, груганы чакалі:
Зь лесу ўзнялася іх грамада цэла
І крыкам злосным ў неба загрымела.

Як труп у тое я месца зваліўся,
Гдзе мы калісьці агонь раскладалі, —
Біў сабе грудзі і сьлязьмі заліўся...
Раптам рэвольвэр адкінуў найдалей,
Бо сьмех шалёны хапіў з тэй прычыны:
Што «шлях з жанчынай ёсьць грэхам
[мужчыны».

Цяпер ня знаю, гдзе яна, што зь ёю:
Пашто крываві[ць]—рану свайго сэрца?
Часам здаецца, што яна маёю
На векі будзе, хоць-бы ў паняверцы.
Так кажа сэрца, а розум рагоча...
Чарку дай, Браце! Нап'юся ахвоча.

**Прысылайце грошы на падпіску.**

Сябры гуртка карыстаюцца бібліотэкай дарма. Іншыя асобы, жадаючыя пазычаць кніжкі павінны заплаціць 1 зал. залогу і 20 гр. у месяц за чытаньне.

**— Тэлеграма Беларускаму Навуковаму Зьезду ў Менску.** Беларускае Навуковае Т-ва ў Вільні паслала гэтакаю тэлеграму Беларускаму Філёлёгічнаму Зьезду ў Менску:

Інбелкульт—Менск.

Урад Беларускага Навуковага Таварыства вітае Акадэмічную Конфэрэнцыю, шле пажаданьне ўдачнае працы.

Адмова польскае ўлады выдаць пашпарты ўсім запрошаным на зьезд прымусіла й адзінага, што дастаў пашпарт, дзеля солідарнасьці ўстрымацца ад падарожжа. Гэтак Заходняя Беларусь пазбаўлена прадстаўніцтва пры разьвязаньні пытаньняў нашага культурнага жыцьця першае вагі, вынікам чаго можа быць аднабокасьць пастановаў Конфэрэнцыі.

Беларускае Навуковае Таварыства будзе лічыць рэзалюцыі Концэрэнцыі факультатыўнымі да ўрадненьня іх з прадстаўніцтвам Заходняе Беларусі. Таварыства просіць Конфэрэнцыю ўзьдзержыцца ад рэалізацыі прынятых пастановаў да таго ўзгадненьня.

*Урад Таварыства.*

**У студэнтаў Беларусаў.** Беларускі Студэнскі Саюз у Вільні пачаў працу ў сёлетнім школьным годзе.

Сэкрэтарыят Б. С. Саюзу (Віленская 12, п. 6) адчынены ў аўторкі, чэцьверы і суботы ад 2 да 6 гадз. папал.

Ад 1-га кастрычніка с. г. Бел. Студ. Саюз пачаў рэестрацыю новых сяброў.

**— Угодкі Якуба Коласа.** Сёлета споўнілася 20 год літэратурнае дзейнасьці Якуба Коласа (праўдзівае прозьвішча ягонае—Канстанцін Міцкевіч). Якуб Колас пачаў друкаваць свае творы ў 1906 годзе ў „Нашай Долі“; ён належыць да найлепшых беларускіх поэтаў. У Менску будзе сьвяткаваньне 20-х угодкаў літаратурнай дзейнасьці Коласавай. Як наказуюць газэты, Якуб Колас у Радавай Беларусі абвешчаны сёлета народным поэтам. Гэтакім парадкам гэта ўжо другі беларускі народны поэта. Першым народным поэтам летась абвешчаны Янка Купала (Я. Луцэвіч).

**— Суд над літоўскай газэтай.** Акружны суд зацьвердзіў арышт накладзены камісарам ураду на м. Вільню на № 118 й 119 літоўскай газэты „Vilniaus Aidas“. Адначасна пацягнена ў суд рэдактарка Жукоўская.

**— 12.XI. конфіскавана** № 46 літоўскага журналу „Kelias“ за арт. „Пара варушыцца“. Над рэдактарам I. Новікам будзе суд паводле арт. 129.

**— Суд над украінскімі паслами ў Вільні.** 16-га лістападу ў апэляцыйным судзе ў Вільні пачаўся суд над украінскімі паслами: Чучмаем, Васынчуком і Казіцкім.

Менаваныя паслове абвінены, што „заклікалі насяленьня да паваленьня існуючага гаспадасьцьвенага ладу“ і былі выдадзены Соймам суду, што засудзіў іх ад 1 да 3 год турмы.

На пропозыцыю абароньнікаў паслове былі звольненыя пад залог ад 100 да 300 залатовак. У гэтым часе падсудныя падалі апэляцыю ў апэляцыйны суд у Любліне, дзе былі звольнены ад віны й кары.

Але прокурор падаў касацыю ў Найвышэйшы Суд, каторы скасаваў прысуд Апэляцыйнага Суду ў Любліне і перадаў справу на новы разгляд Апэляцыйнаму Суду ў Вільні. Абароньнікамі вышпаменаваных паслоў ёсьць адв. Лібэрман і Сьмяроўскі.

**— Зялезнадарожная лінія Вільня—Радунь.** Віленскаму ваяводзе пададзены проект будоўлі зялезнай дарогі Вільня—Эйшышкі—Радунь. Польскія газэты пішуць, што лінія гэтая будзе мець вялікае значэньне, бо злучыць Вільню зь яе паўднёвымі ваколіцамі, з каторымі дагэтуль былі зносіны слабыя.

Але магчыма, што гэтая лінія праводзіцца дзеля стратэгічных мэтаў.

## ВОСЕНЬ.

За сьцяною хаткі
Восень павявае,
Дзетанькаў да маткі
Кучка падбягае.
«Маці, міла маці, —
Кажа Ясь да маткі, —
Будзем лепш гулялі
У куточку хаткі;
Бо на панадворку
Зюзя ўхапіць хоча
І так, як Тадорку,
На сьмерць завалоча.
Мы баімся сьмерці,
Ня хочым ўміраці.
Ня хочым памерці».
Дзеці ў хор да маці.
Маці так міленька
На іх пaглядае
І сьлязу чысьценьку
З вочаў абціраe.
«Апраньце халаткі —
Кажа дзеткам маці —
І ідзеце з хаткі
Вы на двор гуляці.
Вось там, як міленька,
На лугу прасторным;
Ой барждзэй, барзьдзенька,
Бо мы ў пакаморным.
То ня наша хатка,
То ня наш куточак».
Кажа дзетхам матка,
А ў іх сьлёзкі з вочак
На чырвоны шчочкі,
Як гарошак льюцца,
Поўны сьлёзаў вочкі...
Дзеткі не сьмяюцца.

17.X.1926. *Фр. Грышкевіч.*

# З Польшчы.

### Протэст варшаўскіх журналістаў і газэтаў проці прэсавага дэкрэту.

На паседжаньню 10 лістападу сёлета, праўленьне сындыкату варшаўскіх журналістых разам з выдаўцамі й галоўнымі рэдактарамі штодзенных газэтаў варшаўскіх прынята гэтакая рэзолюцыя:

„Прадстаўніцтва штодзеннай прэсы ў Варшаве, разгледзіўшы загад Прэзыдэнта Рэспублікі з дня 4 лістападу 1926 г. аб карах за пашырэньне непраўдзівых весьцяў ды аб карах за за зьнявагу ўладаў і іхніх прадстаўнікоў, прызнаючы канечнаю патрэбу ўрэгуляваньня прэсавых законаў у Польшчы ў паразуменьню з прадстаўнікамі прэсы, устанаўляе, што загад з дня 4 лістападу ёсьць нарушэньнем свабоды прэсы, будучай аднэй зь істотных здабычаў дэмокрацыі, аднолькава як і нарушэньне свабодаў грамадзянскіх.

Істота загаду ў адносінах да прэсы нарушае наўперад галоўны прынцып, каторы ёсьць у тым, што аб эвэнтуальных надужыцьцях прэсавай свабоды пастанаўляе запраўдны суд. Бо загад выймае ведамаю катэгорыю прэсавых праступкаў зь межаў дзеяньня судоў запраўдных і паддае ў першай інстанцыі пастанове адміністрацыйных уладаў, каторыя ані сваім характарам, ані спосабам паступаньня не гварантуюць незалежнасьці й бесстароннасьці пастановаў.

Небясьпечнасьць ёсьць тым вялікшая, што агульнасьць поймаў у загадзе (як прыкладам справа пашырэньня сьвядома непраўдзівых або перакручаных весьцяў, нядбальства, без тачнейшага азначэньня) мусіць прывесьці да самадумнага высьненьня з боку адміністрацыйных органаў, разам із сыстэмаю караў, прадбачаных і мноствам асобаў, падпадаючых пад дзеяньне загаду, што стварае да некатарай меры зборнаю адказнасьць, можа лёгка паўстаць ў краю station... 

Другім галоўным прынцыпам у вусіх цывілізаваных краёх сьвету — ёсьць права захаваньня рэдакцыйнай тайнасьці. Вынікае яно зь істоты прэсы і ня можа быць у жадных абставінах нарушана.

Прэса астанецца далей верная гэтаму прынцыпу рэдакцыйнай тайнасьці і йзноў запэўняе, што ў абароне гэтага прынцыпу ня ўгнецца пад жаднаю ўмоваю і пры жадных абставінах.

Праўленьне Сындыкату Варшаўскіх Журналістых на паседжаньню 10-га лістападу, разам з учасьцем выдаўцоў і галоўных рэдактараў штодзенных газэтаў усялякіх кірункаў політычных выказуе пераканаңьне, што загад гэты, як вядучы ў консэквэнцыі да выкрыўленьня публічнага жыцьця, будзе як найбарждзэй адданены“.

(Ідзе подпіс Сындыкату Варшаўскіх Журналістых і рэдакцыяў газэтаў).

### І іншыя журналісты протэстуюць.

Прэзыдыум Сындыкату Варшаўскіх Журналістых дастаў тэлеграмы ад саюзаў журналістых ў Лодзі й Пазнані, протэстуючыя проці загаду прэзыдэнтавага з дня 4 лістападу сёл. аб уцісках прэсы,

### Заграніца аб прэсавым дэкрэце.

„Robotnik“ піша, што з францускіх соцыялістычных кругоў наказуюць гэтакае: „Ня можаце сабе прадставіць, які настрой стварыўся ў сувязі з абвешчаньнем у нямецкіх газэтах дэкрэту аб друку. Кажу аб дайме (ўражаньні) сярод дэмокрацыі. Мін. Залескі запэўняў нас у Жэнэве, што Польшча астаецца дэмократычнай, што ўрад, каторы зьявіўся па маёвым пераваpоце, азначае зварот у бок дэмокрацыі. Польскае пасольства інформовала ў гэтым-жа дусе. Пытаемся сябе, дзе-ж польская дэмокрацыя?“.

„Robotnik“ у канцы дадае, што гэта ўзяздзена з прыватнага ліста аднаго зь ведамых паслоў лявіцы ў Францыі.

### P.P.S. пераходзе да опозыцыі.

Цэнтральны спаўняючы комітэт PPS (Польская Соцыялістычная Партыя) прыняў гэтакаю рэзалюцыю:

„CKW. (Цэнтральны Спаўняючы Комітэт) сьцьвярджаючы, што выдадзены 6-га лістападу прэсавы дэкрэт ёсьць новым гвалтам над конституцыяй і вытнем (ударам) сьціраваным у дэмократыю, бо касуе свабоду слова й друку, — кліча ZPPS зрабіць усе стараньні, каб дэкрэт гэны Сойм без адкладу аддаліў.

CKW сьцьвярджае, што апошнія пастановы Ураду ў політыцы грамадзка-гаспадарскай, таксама, як прэсавы дэкрэт і прынцыпіяльныя адносіны Ураду да парлямэнтарнай дэмокрацыі прычыняюць занятак PPS становішча опозыцыйнага да Ураду.

Учора было супольнае паседжаньне CKW, прэзыдуму ZPPS і Цэнтралі Профэсыянальных Саюзаў, пры ўчасьці дэлегатаў саюзаў вуглякопаў, земляробскіх работнікаў і іншых.

Конфэрэнцыя ўстанавіла супольны інтэрэс работніцкаў клясы, сконкрэтызавала сьцяг постулятаў да ўраду.

Конфэрэнцыя сьцьвердзіла, што ўрад зусім адыйшоў у палітыцы ад работнікаў і клікнула да барацьбы з урадам. Конфэрэнцыя прыняла пастанову, клічачаю да барацьбы з урадам, аднаэгодна.

Пабачым, ці PPS запраўды будзе ў опозыцыі, ці гэта толькі тактычны крок перад недалёкімі выбарамі.

### Мін. Марачэўскі зрокся мандату.

Як ведама, цэнтральны комітэт PPS з прычыны свайго пераходу да опозыцыі дамагаўся ад мін. Марачэўскага каб або пакінуў кабінэт, або зрокся мандату. Марачэўскі, парадзіўшыся зь Пілсудскім, валей зрокся мандату.

Яно й праўда, на што той ужо мандат, калі канец гэтага Сойму блізкі.

### Протэст проці арышту Вільфана.

Соймавыя клюбы нацыянальных меншасьцяў паслалі ўчора гэткі пратэст:

*Бэніту Мусоліні. Прэзыдэнту Ураду. Рым.*

Глыбока абураны арыштаваньнем пасла д-ра Вільфана, старшыні двух конгрэсаў Нацыянальных Меншасьцяў Эўропы гэтым катэгарычне протэстуем проці пагвалчэньня права барацьбы за свабоду народаў. Дамагаемся безадкладнага звальненьня выразіцеля імкненьняў уцісканых народнасьцяў да лепшае будучыні.

Ярэміч—Беларускі Клюб, Тарашкевіч—Беларуская Грамада, Гартгляс—Жыдоўскае Кола, Піш—Клюб Злучаньня Нямецкага, Казіцкі—Кл. Украінскі.

Учасьнікі конгрэсаў нацыянальных меншасьцяў паслове: Грынбаум, Кернэр, Сільбэршэйн, Вейнцігер, Кронінг, П. Васынчук; сэнатары: Госбах, Науман, Грэбэ, Чаркоўскі, Ліўчаноўская.

Паводле апошніх весткаў Вільфан звольнены.

### Язда чыгункай падаражэе.

Сёлета зь 1-га сьнежня мае быць паднята плата за праезд па зялезнай дарозе на 10 проц. Ведама, што ад гэтага падаражэюць і іншыя рэчы, дык, значыцца, сам урад робе даражыню.

### Крадзежа ў касьцеле.

У Варшаве ў касьцеле айцоў Базыліянаў на Мядовай вул. зроблена крадзежа сьвятых рэчаў. Злодзеі ня знайдзены.

### Крадуць у банках.

У сувязі з надужыцьцямі ў Банку Злучаных Коопэратываў у Варшаве арыштаваны дырэктар банку Язэп Саксон.

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Узнаўленьне француска-радавых перагавораў.

Гэтымі днямі нанова пачынаюцца француска-радавыя перагаворы.

Заграцічныя газэты наказуюць, што ранейшыя перагаворы былі перарваны ў ліпні сёлета з тае прычыны, што радавая дэлегацыя адмовілася згадзіцца на стацьцю, якая найвыгадней для Францыі разьвязавала пытаньне аб даўгох Расеі. Паводле гэнае стацьці ўсякая выгаднейшая згода аб ліквідацыі даўгоў Расеі, зробленая радавым урадам зь іншымі гаспадарствамі, аўтоматычна пашыралася-б і на францускіх собсьнікаў расейскіх папераў. Француская дэлегацыя мела даймо (уражаньнё), што радавы ўрад, не згаджаючыся на гэтаю стацьцю хацеў пакінуць за сабой свабоду дзеяньня пры перагаворах із Злучанымі Гаспадарствамі й Англіяй.

Перад перарывам перагавораў радавая дэлегацыя запрапанавала плаціць у працягу 52 год па 60 міл. залатых франкаў або па 50 міл. у год упрацягу 62-х год, пры ўмове, што радаваму ўраду будзе дадзены даўгарочная (даўгатэрміновая) пазыка 225 міл. даляраў, а паіменна: 75 міл. гатоўкаю, а 150 міл. таварамі на павер. Далей радавы ўрад гатоў быў прыняць забавязаньне зрабіць з Францыяй гандлёвваю ўмову, падобнаю нямецка-радавай. На гэтую пропозыцыю француская дэлегацыя не згадзілася і ад сябе запрапанавала плаціць па 82 міліёны франкаў у працягу 60 год. Пазыку радаваму ўраду даць гатоўкай Французы лічылі немагчымай.

### Рэзолюцыя комуністых проці опозыцыі.

Апошняя комуністычная конфэрэнцыя ў СРСР вынесла гэтакаю рэзолюцыю аб сваёй опозыцыі: Работа опозыцыі завецца водхінам у бок соцыял-дэмакрацыі, што Зіноўеў і Каменеў згаджаюцца з паглядамі Троцкага аб характару расейскай рэволюцыі. Далей указуецца, што опозыцыя ня вера ў нутраныя сілы рэволюцыі і сумляваецца аб магчымасьці сусьветнай рэволюцыі; адкідае галоўнаю думку Ленінаву аб саюзе пролетарыяту зь сялянствам, лічачы, што гэтыя клясы мусяць стукнуцца паміж сабой.

### Аўганістан заказуе ў СРСР аэропляны.

Афганскі ўрад заказаў у СРСР 116 аэропляна́ў для афганістанскай арміі. Маторы для для аэропляна́ў будуць прывезены зь Нямеччыны. Афганістанскі паветраны флёт ёсьць пад вылучным уплывам радавых інструктароў.

### Антысэмітызм у СРСР.

Францускі журналісты Лекаш, каторы рабіў дасьледаваньне аб украінскіх пагромах у сувязі із справай Шварцбэрда, падзяліўся з прадстаўніком жыдоўскай тэлеграфнай агенцыі сваімі доймамі (уражаньнямі) аб адносінах да Жыдоў у СРСР. Лекаш адцемлюе антысэмітызм як найактуальнейшае зьявішча ў СРСР. Паводле яго аднэй з прычынай антысэмітызму ёсьць жыдоўская колёнізацыя. Адносіны Жыдоў-колёністых з суседзямі сялянамі не заўсёды добрыя і магчымасьць пагромаў, ня гледзячы на абарону радавага ўраду, ня вылучана. Лекаш аб'яжджаў колёніі ў аўтомобілі „Джойнта“: сяляне пушчалі ў аўтомобіл каменьне.

### Барацьба паміж нямецкімі комуністымі.

Барацьба ўнутры нямецкай партыі комуністычнай ня сьціхае. З партыі аддалены комуністычныя паслы ў рэйхстазе Урбанс, Шолем і Шван.

## Лісты да Рэдакцыі.

Грамадзяніне Рэдактару!

Не адмоўце надрукаваць у Вашай газэце ніжэй пададанае.

У сувязі з зацемкай у газэце „Słowo“ з 10 лістападу сёл. г. ў справе высяленьня Сяргея Папова, заяўляю: запраўды я быў у п. Камісара і даведаваўся, як гэта справа прадстаўляецца. Аднак дзівіць мяне, што ўрадовец, каторы займае адказнае становішча, якім ёсьць п. Ішора, падае да публічнага ведама рэчы, нязгодныя з праўдаю, што я ўважаю за інсынуацыю.

З пашанай *Ф. Ярэміч*
пасол на Сойм.

11.XI. 1926 г.

Паважаны Грамадзяніне
Рэдактару!

У сувязі з зацемкай, быццам я свайго часу браў учасьце ў Вільні на палітычнай конфэрэнцы з грам. Дварчанінам, Маразовічам, Мамонькай, Косьцевічам і інш., прашу надрукаваць наступнае:

Быў я ў Більні ў справах асабістых. Язэпа Мамоньку выпадкова й першы раз з Польшчы спаткаў у рэд. „Нар. Справы“, што могуць сьцьверцзіць і супрацаўнікі гэтае рэдакцыі. Ніякай палітычнай конфэрэнцыі пры мне не адбылося, аб чым запярэчылі грам. Дварчанін і Маразовіч.

З пашанай
*Аўген Міткевіч.*

## НАШАЯ ПОШТА.

**Карэцкаму ў Дубніках:** Вы самі пішаце, што ня можна зьвяртаць увагі на словы цёмнага чалавека, які ня ведае, хто ён. Сьведамасьць нацыянальная і арганізацыя патрэбны перш-наперш на тое, каб паправіць свае цяжкое жыцьцё, каб з намі лічыліся і нас шанавалі. У справах Беларускага Інстытуту Гаспадаркі й Культуры зьвяртайцеся ў Віленскі Адьдзел (Завальная 7—8). Газэту пасылаем.

**Сяргей Пяюн:** №№ 30 й 31 Вам пасланы.

**М. Жук у Празе:** Аб тым, што пісаць аб гаспадарцы ў „Сял. Ніву“, напішам у лісьце.

**Я. Ц. у Францыі:** Прысланы Вамі пераклад з Альфонса Додэ вельмі добры, будзем друкаваць, перакладайце балей. Падрабней напішам у лісьце.

**К. Казлоў у Буэнос-Айрэс:** Згаджаемся на мену, але, на жаль, Вашага журналу зусім не дастаем. „Сял. Ніва“ пасылаецца Вам акуратна.

**Дасталі:**

Ад: Мікалая Пракапені — 3 зал., Міхала Пішчыка — 2 зал.

## БЕЛАРУСКІЯ ЗАГАДКІ.

31. Ёсьць імя і будзе, а яго ня было і ня будзе.

Запісаў у Случчыне ад аднаго старэнькага Беларуса—*А. Шкутка.*

32. Наляцелі капітаны, усіх людзей пахваталі, а хата цераз вокна ўцякла.

Падаў *Янка Весялуха.*

Пачынаючы з гэтага нумару за адгаданыя загадкі Рэдакцыя жаднае *надгароды* даваць *ня будзе*, а дзеля гэтага *прысылаць* адгадак *ня трэба.*

*Адгадкі* загадак з № 37: 27) пярсьцёнак, 28) нарогі ў сасе, 29) цыбуля, 30) журавель, што ваду даставаюць.

## Хто колькі загадак адгадаў.

За кожнаю адгаданую загадку да № 34 Рэдакцыя дае Беларускі Народны Календар на 1927 год за паўцаны, а пачынаючы з № 34 за 2 трацiны цаны.

Дзеля гэтага ўсіх адгадчыкаў падзелім тутака на 2 групы. Да 1-ае групы належаць тыя, што адгадавалі й да № 34, а да 2-ае групы тыя, што адгадавалі пачынаючы з № 34.

*1-ая група:*

1) Асмаловец Якуб адгадаў 2 загадкі, 2) Амяльяшка Іван — 3 заг. (3 календары за паўцаны) і 5 заг. з № 36 (5 кал. за 2 трэці цаны), 3) Балдоўская Вікторыя—2 заг., 4) Буцвінёнак Гіляры—1, 5) Былінскі Міхал—3, 6) Босы Захар—4, 7) Весялуха Янка—3, 8) Войніч Мікола—3, 9) Галаўня Вольга—2, 10) Грыневіч Ян —5, 11) Грэсь Аляксандар—2, 12) Грыб Міхась —2, 13) Дэшкоўскі Ян—5, 14) Дайновец Ян—2, 15) Ілюкевіч Пётра—2, 16) Каршун Ст.—2, 17) Конах Іван—2, 18) Кілдановіч Зыгмонт—2 (2 кал. за паў цаны) і 8 заг. ад № 34 (8 кал. за 2 трэці), 19) Казак Антон—3, 20) Кліманскі Васіль—5, 21) Карнавух Хведар—3 (3 кал. за паў цаны) і 8 заг. з № 34 і 36 (8 кал. за 2 трэці цаны), 22) Лагунёнак Антон—2, 23) Лоўкіс Рамуальд—3, 24) Літвінчык Васіль—2, 25) Лук'яновіч Ігнат—4 (4 кал. за паў цаны) і 3 заг. з № 34 (3 кал. за 2 трэці цаны), 26) Маліноўскі Канстанцін—3, 27) Масьцерка Максім—6, 28) Мелеховец Антон—6, 29) Мікулік Міхал—1, 30) Мартышэнка Ян—5, 31) Мартышэнка Ўлас—3 заг., 32) Плехтан Мікола—8 (8 кал, за паўцаны) і 3 заг. з № 34 (3 кал. за 2 трэці цаны), 33) Пачкоўскі Мікола—3, 34) Пяшчынскі Васіль—3, 35) Рыжы А.—2 (2 кал. за паў цаны) і 3 заг. з № 34 (3 кал. за 2 трэці цаны), 36) Рамэйка Лук'ян —2, 37) Рубанік Лукаш—5, 38) Рахман Аляксандар—3, 39) Сасонка Зыгмонт—3, 40) Шчасная Аляксандра—4, 41) Шульвінскі Ігнат—4, 42) Татарчук Адварды—7, 43) Юркаў Янка—5, 44) Яцкевіч Я.—3, 45) Янчуковічанка Марыя—2.

Дзе ў гэтай групе не паказана колькі трэба плаціць за календар, там за кожнаю адгаданаю загадку належыцца календар за паў цаны.

*2-ая група:*

1) Атакова Ніна—4 заг., 2) Будзька Часлаў—3, 3) Беларусаў М.—3, 4) Буйка Стан.—3, 5) Баравы Міхал—3, 6) Грынкевіч Фэлікс—5, 7) Гайлевіч Ф.—3, 8) Дзейка Лукаш—3, 9) Еленскі—3, 10) Езерскі Міхал—4, 11) Зьмітрок з Чэраса—3, 12) Іовік Дзьмітры—3, 13) Ілюкевіч Н. —3, 14) Кляляціч Казімер—3, 15) Козька Канстанцін—3, 16) Мілеўскі І.—3, 17) Мароз Пётра —3, 18) Мінайла Васіль—5, 19) Матусэвіч К.—3, 20) Новікаў Сяргей—3, 21) Омельянюк Пётра—4, 22) Патрэба Сьцяпан—3, 23) Пяткевіч Аляксандар—4, 24) Пузырэўскі Ізыдар—3, 25) Родзіч (?) Гіпаліт—3, 26) Ракавец Софія—3, 27) Саўчыц Б.—4, 28) Шчарбінскі Павал—3, 29) Шкутка А.—3, 30) Шуста Міхал—3, 31) Тарарака Ян—4, 32) Чабатар В.—3, 33) Мароз Сымфарыян—5, 34) Савін Г.—5 загадак.

Хто запісаны ў гэтай групе, той за кожнаю адгаданаю загадну дастае календар толькі за дзьве трэці цаны.

*Календары пасылаюцца толькі па атрыманьню грошай.* Грошы трэба прысляць у Рэдакцыю „Сялянскай Нівы“ найпазьней да 7-га сьнежня 1926 г. Хто да 7 сьнежня ня прышле грошай, той па вышпамененай зьменшанай цане календара не дастане.

Прысылаючы грошы на календары, трэба адначасна дадаць кошт перасылкі поштай. Колькі трэба дадаць на перасылку, глядзеце ў абвестцы аб календары ў гэтым нумары „Сялянскай Нівы“.

Беларускі Народны Календар на 1927 год стоіць 1 зал. 40 грашоў, дык паўцаны будзе 70 грашоў, а дзьве трэці цаны 94 грошы.

Хто будзе ў Вільні да 7 сьнежня, той можа ўзяць сабе календары, паклікаўшыся на гэты № „Сял. Нівы“, у Беларускай Кнігарні—Астрабрамская вул. № 2. Хто ня хоча браць календароў на ўсе адгаданыя ім загадкі, той можа ўзяць іх меней, колькі захоча.



Рэдактар і выдавец **Ст. Вольскі.** Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны.—Вільня, Людвісарская 1.